# КАНСТЫТУЦЫЯ

## (Асноўны закон)

## БЕЛАРУСКАЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ САВЕЦКАЕ РЭСПУБЛІКІ




ВЫДАНЬНЕ
ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ
БЕЛАРУСКАЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ САВЕЦКАЕ
РЭСПУБЛІКІ

МЕНСК
1927.

# КАНСТЫТУЦЫЯ
## (Асноўны закон)

## БЕЛАРУСКАЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ САВЕЦКАЕ РЭСПУБЛІКІ





Выданьне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Б.С.С.Р.

МЕНСК — 1927

# КАНСТЫТУЦЫЯ

## (Асноўны Закон)

## Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

### Разьдзел I.

### Агульныя палажэньні.

**Арт. 1.** Гэтая Канстытуцыя (Асноўны Закон) Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі (БССР) грунтуецца на асноўных палажэньнях дэклярацыі праў працоўнага і эксплёатуемага народу, прынятае III Усерасійскім Зьездам Саветаў, на маніфэсьце Часовага Рабоча-Сялянскага Савецкага Ўраду Беларусі за 1 студзеня 1919 году, на асновах Канстытуцыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, прынятай 1-м Усебеларускім Зьездам Саветаў, і на дэклярацыі аб абвяшчэньні незалежнасьці Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі Беларусі за 1 жніўня 1920 году і мае сваёю задачаю забясьпечыць дыктатуру пралетарыяту для прыдушэньня буржуазіі, зьнішчэньня эксплёатацыі чалавека чалавекам і ажыцьцяўленьня камунізму, пры якім ня будзе ні падзелу на клясы, ні дзяржаўнае ўлады.

**Арт. 2.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка ёсьць сацыялістычная дзяржава дыктатуры пралетарыяту, якая ажыцьцяўляе свае задачы на грунце саюзу рабочых і сялян.

Уся ўлада ў межах Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі належыць саветам рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

**Арт. 3.** Найвышэйшаю ўладаю ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы зьяўляецца Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, а ў пэрыяд паміж зьездамі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 4.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка згодна з воляю працоўных, пастанавіўшых на IV-м Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў утварыць Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, як Саюзная Рэспубліка, перадае Саюзу паўнамоцтвы, вызначаныя арт. 1-м Канстытуцыі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, і мае, паводле арт. 4. Канстытуцыі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, права на вольны выхад з Саюзу.

**Арт. 5.** У межах, паказаных у Асноўным Законе (Канстытуцыі) Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, і па прадметах, якія належаць да кампэтэнцыі Саюзу, на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі маюць абавязковую сілу пастановы найвышэйшых органаў Саюзу ССР. Ніякія іншыя органы, апроч Усебеларускага Зьезду Саветаў, Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, яго Прэзыдыуму і Савету Народных Камісараў, ня маюць права выдаваць заканадаўчыя акты агульнадзяржаўнага значэньня на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 6.** Уся зямля, лясы, нетры, воды, а таксама фабрыкі і заводы, чыгуначны, водны і паветраны транспарт і сродкі сувязі зьяўляюцца ўласнасьцю сацыялістычнае дзяржавы, карыстаньне імі вызначаецца асобнымі законамі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў межах іх кампэтэнцыі, устаноўленай Канстытуцыямі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 7.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка прызнае працу абавязкам усіх грамадзян, лічачы ахову працы за асабліва важную сваю задачу.

**Арт. 8.** Для забесьпячэньня працоўным сапраўднай волі ўтвараць саюзы Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, перамогшы эканамічную і палітычную ўладу заможных кляс і зьнішчыўшы гэтым усё, што перашкаджае ў буржуазнай грамадзе рабочым і сялянам вольна арганізоўвацца і дзейнічаць, дапамагае рабочым і сялянам у справе іх аб'яднаньня і арганізацыі.

**Арт. 9.** Для забесьпячэньня працоўным сапраўднай волі склікаць сходы Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, прызнаючы права грамадзян Савецкай Рэспублікі вольна наладжваць сходы, мітынгі, працэсіі і інш., дае ў распараджэньне рабочае клясы і сялянства ўсе годныя для наладжаньня народных сходаў памяшканьні.

**Арт. 10.** Для забесьпячэньня працоўным сапраўднай волі да выяўленьня сваіх думак Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, зьнішчыўшы залежнасьць друку ад капіталу, дае ў рукі рабочай клясы і сялянства ўсе тэхнічныя і матэрыяльныя сродкі на выданьне газэт, брашур, кніг і розных іншых тавараў друку і забясьпечвае іх вольнае распаўсюджваньне па ўсёй краіне.

**Арт. 11.** Для забесьпячэньня працоўным сапраўднага доступу да ведаў Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка мае на мэце даць ім поўную, усебаковую і бясплатную асьвету.

**Арт. 12.** Для забесьпячэньня працоўным сапраўднай волі сумленьня царква адлучаецца ад дзяржавы і школа ад царквы, а воля рэлігійнай і антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі.

**Арт. 13.** Для аховы заваёў Вялікай Кастрычнікавай Рэвалюцыі Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка прызнае за абавязак

усіх грамадзян Рэспублікі абарону сацыялістычнай бацькаўшчыны і ўстанаўляе ўсеагульную вайсковую павіннасьць.

Ганаровае права абараняць рэвалюцыю са зброяю ў руках даецца толькі працоўным; на непрацоўныя элемэнты ўскладаецца выкананьне іншых вайсковых абавязкаў.

**Арт. 14.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка прызнае роўнасьць праў грамадзян, незалежна ад іх расы і нацыянальнасьці.

**Арт. 15.** У адпаведнасьці з арт. 7 Канстытуцыі СССР грамадзяне Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі зьяўляюцца грамадзянамі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**Арт. 16.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка дае ўсе правы, што ўстанаўляюцца Канстытуцыяю і заканадаўствам Рэспублікі для грамадзян Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, таксама і ўсім грамадзянам іншых савецкіх саюзных рэспублік, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 17.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, грунтуючыся на салідарнасьці працоўных усіх нацый, дае на падставе пастаноў найвышэйшых органаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік усе палітычныя правы чужаземцам, якія жывуць на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі для працоўных заняцьцяў і належаць да рабочае клясы, а таксама да сялянства, якое не карыстаецца чужою працаю.

**Арт. 18.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка дае права на прытулак усім чужаземцам, якія прасьледуюцца за палітычную дзейнасьць або за рэлігійныя перакананьні.

**Арт. 19.** Кіруючыся інтарэсам працоўных, Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка пазбаўляе паасобных грамадзян і паасобныя групы грамадзян праў, якімі яны карыстаюцца на шкоду інтарэсам сацыялістычнае рэвалюцыі.

**Арт. 20.** Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка на грунце поўнага зьнішчэньня нацыянальнага ўціску забясьпечвае вольнае эканамічнае і культурнае разьвіцьцё і палепшаньне дабрабыту працоўных усіх нацыянальнасьцяй, якія ў ёй жывуць, і арганізуе шырокі ўдзел іх у сацыялістычным будаўніцтве праз саветы рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

Для больш поўнага і шырокага ўцягненьня працоўных нацыянальных меншасьцяў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў работу эканамічнага і сацыялістычнага будаўніцтва ў мясцовасьцях, дзе працоўныя тае ці іншае нацыянальнасьці складаюць большасьць насельніцтва, арганізуюцца саветы, якія працуюць на мове данай нацыянальнасьці і найбольш поўна бяруць пад увагу ў сваей рабоце нацыянальныя асаблівасьці.

**Арт. 21.** Усе грамадзяне Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі маюць права вольна карыстацца роднаю моваю на зьездах, у судзе, у дзяржаўным кіраўніцтве і ў грамадзкім жыцьці.

Нацыянальным меншасьцям забясьпечваецца права і рэальная магчымасьць вучыцца ў школе на роднай мове.

У дзяржаўных і грамадзкіх установах і арганізацыях Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ўстанаўляецца поўная раўнапраўнасьць беларускае, яўрэйскае, расійскае і польскае моў.

**Арт. 22.** Дзякуючы значнай перавазе ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца, як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсыянальнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі.

**Арт. 23.** Важнейшыя заканадаўчыя акты публікуюцца на беларускай, яўрэйскай, расійскай і польскай мовах.

## Разьдзел II.

## Аб кампэтэнцыі Ўсебеларускага Зьезду Саветаў і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 24.** Да выключнае кампэтэнцыі Ўсебеларускага Зьезду Саветаў належыць:

а) устанаўленьне, дапаўненьне і зьмена асноў Канстытуцыі (Асноўнага Закону) Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і канчатковае зацьверджаньне частковых зьмен у Канстытуцыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, прынятых Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў пэрыад паміж Усебеларускім Зьездамі Саветаў;

б) вырашэньне ў адпаведнасьці з Канстытуцыяю Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік пытаньняў аб зьмене граніц Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 25.** Да кампэтэнцыі Ўсебеларускага Зьезду Саветаў і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі належаць усе пытаньні агульнадзяржаўнага значэньня:

а) агульнае кіраваньне ўсёю палітыкаю і народнаю гаспадаркаю Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі;

б) адміністрацыйнае дзяленьне тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі;

в) устанаўленьне ў адпаведнасьці з заканадаўствам Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік пляну ўсяе народнае гаспадаркі і паасобных яе галін на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі;

г) устанаўленьне ў адпаведнасьці з Канстытуцыяю і заканадаўствам Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік дзяржаўных і мясцовых падаткаў, збораў і непадатковых даходаў, а таксама заключэньне

замежных і ўнутраных пазычак Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі;

д) зацьверджаньне кодэксаў законаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў адпаведнасьці з Канстытуцыяю СССР;

е) права агульнай і паасобнай амністый, а таксама права рэабілітацыі на тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі асоб, асуджаных судовымі і адміністрацыйнымі органамі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі;

ж) скасаваньне пастаноў акруговых зьездаў саветаў, якія парушаюць гэтую Канстытуцыю або пастановы найвышэйшых органаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі;

з) вырашэньне ўсіх не належачых паводле Канстытуцыі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік да кампэтэнцыі Саюзу пытаньняў, якія Ўсебеларускі Зьезд Саветаў або Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі прызнае належачымі да свае кампэтэнцыі.

## Разьдзел III.

## Аб Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў.

**Арт. 26.** Усебеларускі Зьезд Саветаў складаецца з прадстаўнікоў гарадзкіх саветаў з разьліку адзін дэпутат на дзьве тысячы выбаршчыкаў і з акруговых зьездаў саветаў—з разьліку адзін дэпутат на дзесяць тысяч жыхароў.

Калі перад Усебеларускім Зьездам Саветаў акруговы зьезд саветаў ня будзе скліканы, то дэпутаты выбіраюцца беспасрэдна раённымі зьездамі саветаў.

**Арт. 27.** Усебеларускі Зьезд Саветаў выбірае Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў ліку членаў, які вызначаецца Зьездам Саветаў.

**Арт. 28.** Усебеларускі Зьезд Саветаў склікаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ня менш як адзін раз у два гады.

**Арт. 29.** Надзвычайны Ўсебеларускі Зьезд Саветаў склікаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і па ўласным пачыне, і па патрабаваньні саветаў або зьездаў саветаў мясцовасьцяй, якія налічваюць ня менш аднае трэці ўсяго насельніцтва Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 30.** Усебеларускі Зьезд Саветаў выбірае прадстаўнікоў у Савет Нацыянальнасьцяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Разьдзел IV.

## Аб Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 31.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі зьяўляецца найвышэйшым органам улады ў пэрыяд паміж Усебеларускімі Зьездамі Саветаў.

**Арт. 32.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі выдае кодэксы, дэкрэты і пастановы па сваёй ініцыятыве, а таксама разглядае і зацьвярджае заканапраэкты, унесеныя Саветам Народных Камісараў БССР.

**Арт. 33.** Усе дэкрэты і пастановы, якія вызначаюць агульныя нормы палітычнага і эканамічнага жыцьця Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і тыя, што грунтоўна зьмяняюць існуючую практыку дзяржаўных органаў у Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы, а таксама бюджэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, як частка адзінага дзяржаўнага бюджэту СССР, разглядаюцца і зацьвярджаюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 34.** У пэрыяд паміж сэсіямі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі вышэйшым заканадаўчым, распарадчым і кантралюючым органам улады Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі зьяўляецца Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, які выбіраецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 35.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі вызначае агульны кірунак дзейнасьці Рабоча-Сялянскага Ўраду і ўсіх органаў савецкай улады Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, яднае работу ў галіне заканадаўства і кіраўніцтва, вызначае абсяг дзейнасьці Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і наглядае за ажыцьцяўленьнем Канстытуцыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і за выкананьнем усіх пастаноў Усебеларускіх Зьездаў Саветаў і найвышэйшых органаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**Арт. 36.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі склікаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі на сэсіі. Надзвычайныя сэсіі склікаюцца па ініцыятыве Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, або па прапанове Савету Народных Камісараў, або па патрабаваньні аднае трэці членаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 37.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ўтварае Савет Народных Камісараў для агульнага кіраваньня Беларускаю Сацыялістычнаю Савецкаю Рэспублікаю і народныя камісарыяты для кіраваньня паасобнымі галінамі дзяржаўнага кіраўніцтва Рэспублікі.

**Арт. 38.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі адказны перад Усебеларускім Зьездам Саветаў, якому дае справаздачу аб сваёй дзейнасьці і робіць даклад аб агульнай палітыцы і аб паасобных пытаньнях.

Разьдзел V.

**Аб Савеце Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.**

**Арт. 39.** У склад Савету Народных Камісараў уваходзяць: Старшыня Савету Народных Камісараў, намесьнікі Старшыні, народныя камісары: Старшыня Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, Фінансаў, Працы, Гандлю, Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, Земляробства, Унутраных Спраў, Юстыцыі, Асьветы, Аховы Здароўя, Сацыяльнага Забесьпячэньня і Кіраўнік Цэнтральнае Статыстычнае Управы— з правам пастаноўчага голасу; Старшыня Дзяржаўнае Палітычнае Управы Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і ўпаўнаважаныя народных камісарыятаў Саюзу Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік: Чужаземных Спраў, Ваенных і Марскіх Спраў, Шляхоў, Пошт і Тэлеграфаў—з правам пастаноўчага або дарадчага голасу, паводле пастановы аб гэтым Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 40.** Савету Народных Камісараў належыць агульнае кіраваньне Беларускаю Сацыялістычнаю Савецкаю Рэспублікаю, якое ён ажыцьцяўляе праз народныя камісарыяты, выканаўчыя камітэты і саветы.

**Арт. 41.** Савет Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў межах, дадзеных яму Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, праў і на падставе палажэньня аб Савеце Народных Камісараў выдае дэкрэты і пастановы, абавязковыя да выкананьня на ўсёй тэрыторыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 42.** Савет Народных Камісараў адказны перад Усебеларускім Зьездам Саветаў і Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 43.** Кожная пастанова Савету Народных Камісараў можа быць скасована або прыпынена Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі або яго Прэзыдыумам.

**Арт. 44.** Пры Савеце Народных Камісараў, яго пастановамі ўтвараюцца сталыя камісіі: Эканамічная Нарада, Дзяржаўная Плянавая Камісія і Камісія Заканадаўчых Праэктаў.

Разьдзел VI.

## Аб народных камісарыятах Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 45.** Для беспасрэднага кіраваньня паасобнымі галінамі дзяржаўнага жыцьця, якія належаць да кампэтэнцыі Савету Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, утвараюцца:

1. Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі,
2. Народны Камісарыят Фінансаў,
3. Народны Камісарыят Працы,
4. Народны Камісарыят Гандлю,
5. Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі,
6. Народны Камісарыят Земляробства,
7. Народны Камісарыят Унутраных Спраў,
8. Народны Камісарыят Юстыцыі,
9. Народны Камісарыят Асьветы,
10. Народны Камісарыят Аховы Здароўя,
11. Народны Камісарыят Сацыяльнага Забесьпячэньня,
12. Цэнтральная Статыстычная Управа,
13. Дзяржаўная Палітычная Управа.

Апроч таго, пры Савеце Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі знаходзяцца ўпаўнаважаныя народных камісарыятаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік: Чужаземных Спраў, Ваенных і Марскіх Спраў, Шляхоў, Пошт і Тэлеграфаў.

**Арт. 46.** Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі і народныя камісарыяты Фінансаў, Працы, Гандлю і Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі падпарадкаваны Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, яго Прэзыдыуму і Савету Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і ажыцьцяўляюць у сваёй дзейнасьці дырэктывы адпаведных народных камісарыятаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**Арт. 47.** На чале кожнага народнага камісарыяту стаяць члены Савету Народных Камісараў—народныя камісары, якія выбіраюцца і адклікаюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 48.** Пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР пры народных камісарах могуць утварацца калегіі, члены якіх зацьвярджаюцца Саветам Народных Камісараў.

**Арт. 49.** Народны камісар мае права адзін вырашаць ўсе пытаньні, якія належаць да кампэтэнцыі адпаведнага народнага камісарыяту. Калі калегія ня згодна з тым ці іншым рашэньнем народнага камісара, то яна, не прыпыняючы рашэньня, можа абскардзіць яго ў Савет Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае

Рэспублікі. Такое самае права на абскарджаньне маюць і паасобныя члены калегіі.

**Арт. 50.** Народныя камісары ў сваёй рабоце адказны перад Саветам Народных Камісараў і перад Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і яго Прэзыдыумам.

**Арт. 51.** Кампэтэнцыя і структура народных камісарыятаў і ўзаемаадносіны паміж паасобнымі іх органамі вызначаюцца агульным палажэньнем аб народных камісарыятах Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і палажэньнямі аб паасобных народных камісарыятах.

**Арт. 52.** Загады народных камісарыятаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі могуць быць скасованы Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, яго Прэзыдыумам і Саветам Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, а загады аб'яднаных народных камісарыятаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі—аднайменнымі народнымі камісарыятамі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, у апошнім выпадку, калі яны не асновааны на загадах Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, яго Прэзыдыуму або Савету Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

## Разьдзел VII.

### Аб кампэтэнцыі мясцовай улады.

**Арт. 53.** Вышэйшым органам улады ў межах акругі або раёну зьяўляецца акруговы або раённы зьезд саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Іх выканаўчымі органамі зьяўляюцца акруговыя або раённыя выканаўчыя камітэты, якія ў пэрыяд паміж зьездамі саветаў ажыцьцяўляюць вышэйшую ўладу на данай тэрыторыі.

**Арт. 54.** Акруговыя і раённыя зьезды саветаў і іх выканаўчыя камітэты, а таксама гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы маюць сваёю задачаю:

а) вырашэньне ўсіх пытаньняў мясцовага значэньня ў адміністрацыйнай, гаспадарчай і культурнай галіне і ажыцьцяўленьне адпаведных мерапрыемстваў;

б) складаньне і зацьверджаньне мясцовых бюджэтаў;

в) абяднаньне савецкай дзейнасьці ў межах данае тэрыторыі, а таксама кіраваньне дзейнасьцю ўсіх падпарадкаваных ім на данай тэрыторыі органаў улады;

г) забесьпячэньне ў межах данае тэрыторыі рэволюцыйнае законнасьці і абарону дзяржаўнага ладу і грамадзкае бясьпечнасьці;

д) абмеркаваньне пытаньняў агульнадзяржаўнага значэньня і па сваім пачыне і па прапанове вышэйшых над імі выканаўчых камітэтаў;

е) ажыцьцяўленьне ўсіх пастаноў вышэйшых над імі органаў улады.

**Арт. 55.** Зьезды саветаў і іх выканаўчыя камітэты ажыцьцяўляюць кантроль над дзейнасьцю ніжэйшых саветаў і іх выканаўчых органаў.

Пастановы зьездаў саветаў могуць быць скасованы толькі вышэйшымі над імі зьездамі і іх выканаўчымі камітэтамі, Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі або яго Прэзыдыумам.

Пастановы выканаўчых камітэтаў і іх прэзыдыумаў, а таксама гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў могуць быць скасованы вышэйшымі над імі зьездамі, выканаўчымі камітэтамі, іх прэзыдыумамі, Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, яго Прэзыдыумам і Саветам Народных Камісараў БССР.

**Арт. 56.** У выключных выпадках, у парадку, які вызначаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі, акруговыя выканаўчыя камітэты або іх прэзыдыумы маюць права прыпыняць на сваю адказнасьць ажыцьцяўленьне загадаў народных камісарыятаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

## Разьдзел VIII.

## Аб зьездах саветаў.

**Арт. 57.** Зьезды саветаў складаюцца:

а) акруговыя з прадстаўнікоў гарадзкіх саветаў і раённых зьездаў саветаў з наступнага разьліку: ад гарадзкіх саветаў—1 дэпутат на 500 выбаршчыкаў і ад раённых зьездаў саветаў—1 дэпутат на 2500 жыхароў;

б) раённыя зьезды саветаў складаюцца з прадстаўнікоў усіх саветаў раёну па наступных нормах: ад сельскіх і местачковых саветаў 1 дэпутат на 500 жыхароў, ад гарадзкіх саветаў неакруговых гарадоў 1 дэпутат на 100 выбаршчыкаў.

Увага. Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі даецца права зьмяняць устаноўленыя гэтым артыкулам нормы прадстаўніцтва ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

**Арт. 58.** Зьезды саветаў бываюць чарговыя і надзвычайныя. Чарговыя зьезды саветаў склікаюцца адзін раз на год, надзвычайныя зьезды саветаў склікаюцца:

а) па прапанове вышэйшых над імі зьездаў саветаў або іх выканаўчых камітэтаў;

б) адпаведнымі выканаўчымі органамі савецкай улады (выканаўчымі камітэтамі) і па пачыне апошніх, і па патрабаваньні саветаў, якія налічваюць ня менш аднае трэці насельніцтва данага раёну.

**Арт. 59.** Зьезды саветаў выбіраюць свае выканаўчыя органы—выканаўчыя камітэты, лік членаў якіх вызначаецца пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі або яго Прэзыдыуму.

Разьдзел IX.

### Аб выканаўчых камітэтах.

**Арт. 60.** Выканаўчыя камітэты зьяўляюцца ў пэрыад паміж зьездамі Саветаў вышэйшым органам савецкай улады на адпаведнай тэрыторыі, адказны перад выбраўшымі іх зьездамі і падпарадкаваны вышэйшаму над імі выканаўчаму камітэту, Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі і Савету Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 61.** Для кіраваньня ўсёю бягучаю работаю ў галіне дзяржаўнага кіраўніцтва на адпаведнай тэрыторыі і для ажыцьцяўленьня пастаноў і дэкрэтаў цэнтральнае ўлады выканаўчыя камітэты выбіраюць прэзыдыумы, лік членаў якіх вызначаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам або яго Прэзыдыумам.

**Арт. 62.** У пэрыад паміж пасяджэньнямі выканаўчых камітэтаў прэзыдыумы выканаўчых камітэтаў карыстаюцца правамі апошніх і адказны перад выканаўчымі камітэтамі.

**Арт. 63.** Для беспасрэднага загадваньня на тэрыторыі акругі пасобнымі галінамі кіраўніцтва, што належаць да кампэтэнцыі акруговай улады, акруговыя выканаўчыя камітэты ўтвараюць аддзелы або адпавядаючыя ім органы, арганізацыя і кампэтэнцыя якіх вызначаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 64.** Аддзелы і адпавядаючыя ім органы акруговага выканаўчага камітэту беспасрэдна падпарадкаваны акруговым выканаўчым камітэтам і іх прэзыдыумам, і для іх абавязковы ўсе загады і адпаведнага акруговага выканаўчага камітэту, і яго прэзыдыумаў, і належных народных камісарыятаў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

Разьдзел X.

### Аб саветах рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

**Арт. 65.** Саветы рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў утвараюцца:

а) у гарадох па нормах, якія ўстанаўляюцца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі з такім разьлікам, каб лік дэпутатаў у гарадзкім савеце быў ня менш за 50 і ня больш за 500;

б) у сёлах, вёсках і ў мястэчках з разьліку 1 дэпутат на кожныя 200 чалавек насельніцтва.

Увага. Нормы прадстаўніцтва, якія ўстаноўлены ў гэтым артыкуле, могуць зьмяняцца пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 66.** Для бягучай работы саветы рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў выбіраюць са свайго складу выканаўчыя органы—выканаўчыя камітэты і іх прэзыдыумы на падставах, устаноўленых Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

**Арт. 67.** Саветы дэпутатаў склікаюцца выканаўчым камітэтам, яго прэзыдыумам або старшынёю савету і па сваім пачыне, і па патрабаваньні ня менш аднае трэці членаў савету.

**Арт. 68.** Члены саветаў павінны рэгулярна даваць справаздачы сваім выбаршчыкам.

**Арт. 69.** Выбаршчыкі, якія паслалі ў савет дэпутата, маюць права ў кожны час адклікаць яго і зрабіць новыя выбары.

## Разьдзел XI.

## Аб выбарным праве.

**Арт. 70.** Правам выбіраць і быць выбранымі ў саветы карыстаюцца, незалежна ад веры і нацыянальнасьці, наступныя грамадзяне Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі абодвух полаў, якім да дня выбараў скончылася 18 год:

а) усе асобы, якія здабываюць сродкі для жыцьця прадукцыйнаю і грамадзка-карыснаю працаю, а таксама асобы, якія заняты хатняю гаспадаркаю і забясьпечваюць для першых магчымасьць прадукцыйнай працы;

б) асобы, якія знаходзяцца ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і ў Рабоча-Сялянскім Чырвоным Флёце.

Выбаршчыкі, якія страцілі працаздольнасьць, выбарнага права не пазбаўляюцца.

**Арт. 71.** Не выбіраюць і ня могуць быць выбранымі, хаця-б яны і належалі да аднае з пералічаных катэгорый:

а) асобы, якія карыстаюцца наймоваю працаю для атрыманьня прыбытку;

б) асобы, якія жывуць на непрацоўны даход: на процанты з капіталу, на даходы з прадпрыемстваў, на паступленьні з маемасьці і г. д.;

в) прыватныя гандляры, гандлёвыя і камэрцыйныя пасрэднікі;

г) манахі і духоўныя служыцелі рэлігійных культаў усіх вер;

д) служачыя і агенты быўшай паліцыі, асобнага корпусу жандармаў і ахранных аддзяленьняў, члены царстваваўшага ў Расіі дому, а таксама асобы, якія кіравалі дзейнасьцю паліцыі, жандармэрыі і караючых органаў;

е) асобы, якія прызнаны ва ўстаноўленым парадку душэўна-хворымі або вар'ятамі;

ж) асобы, якія асуджаны за карысьлівыя і ганьбуючыя злачынствы на ўстаноўлены законам або прысудам тэрмін.

Разьдзел XII.

**Аб правядзеньні выбараў.**

**Арт. 72.** Выбары праводзяцца ў дні, устаноўленыя мясцовымі саветамі або іх выканаўчымі органамі.

**Арт. 73.** Парадак правядзеньня выбараў вызначаецца Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі або яго Прэзыдыумам.

Разьдзел XIII.

**Аб гэрбе, сьцягу і сталіцы Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі.**

**Арт. 74.** Дзяржаўны гэрб Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі складаецца з малюнку на чырвоным полі ў праменьнях усходзячага сонца сярпа і молата, якія зьмешчаны крыж-на-крыж ручкамі да нізу і абкружаны вянком; гэты вянок складаецца зьлева з жытніх каласоў, пераплеценых канюшынаю, а справа—з дубовае галінкі; унізе паміж абедзьвюма палавінамі вянка знаходзіцца частка зямной кулі. Абедзьве палавіны вянка перавіты чырвонаю стужкаю, на якой зьмешчаны надпісы на беларускай, яўрэйскай, расійскай і польскай мовах: «Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!» і ніжэй—ініцыялы БССР. Наверсе гэрбу знаходзіцца пяціканцовая зорка.

**Арт. 75.** Дзяржаўны сьцяг Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі складаецца з чырвонага або ірдзялёвага палотнішча, у верхнім левым куце якога, каля дрэўка, зьмешчаны залатыя літары БССР.

**Арт. 76.** Сталіцаю Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі зьяўляецца горад Менск.

---

# Постановление VIII Всебелорусского С'езда Советов Рабочих, Крестьянских и Красноармейских Депутатов

**об утверждении Конституции (Основного Закона) Белорусской Социалистической Советской Республики.**

На основании ст. 5-й Основного Закона (Конституции) Союза Советских Социалистических Республик и постановления 5-го Всебелорусского С'езда Советов Рабочих, Крестьянских и Красноармейских Депутатов, VIII-й Всебелорусский С'езд Советов постановляет:

Представленную на окончательное утверждение Конституцию (Основной Закон) Белорусской Социалистической Советской Республики утвердить.

Председатель VIII Всебелорусского С'езда Советов
**А. Червяков.**

Секретарь VIII Всебелорусского С'езда Советов
**Д. Чернушевич.**

11 апреля 1927 г.
г. Минск.





# КОНСТИТУЦИЯ

## (Основной Закон)

## Белорусской Социалистической Советской Республики.

### Глава I.

### Общие положения.

**Ст. 1.** Настоящая Конституция (Основной Закон) Белорусской Социалистической Советской Республики (БССР) исходит из основных положений декларации прав трудящегося и эксплоатируемого народа, принятой III-м Всероссийским С'ездом Советов, манифеста Временного Рабоче-Крестьянского Советского Правительства Белоруссии от 1-го января 1919 года, основных начал Конституции Белорусской Социалистической Советской Республики, принятой 1-м Всебелорусским С'ездом Советов, и декларации о провозглашении независимости Социалистической Советской Республики Белоруссии от 1-го августа 1920 года и имеет своей задачей гарантировать диктатуру пролетариата в целях подавления буржуазии, уничтожения эксплоатации человека человеком и осуществления коммунизма, при котором не будет ни деления на классы, ни государственной власти.

**Ст. 2.** Белорусская Социалистическая Советская Республика есть социалистическое государство диктатуры пролетариата, осуществляющее свои задачи на основе союза рабочих и крестьян.

Вся власть в пределах Белорусской Социалистической Советской Республики принадлежит советам рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов.

**Ст. 3.** Носителем верховной власти в Белорусской Социалистической Советской Республике является Всебелорусский С'езд Советов, а в период между с'ездами — Центральный Исполнительный Комитет Советов Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 4.** Белорусская Социалистическая Советская Республика согласно воли трудящихся, принявших на IV Всебелорусском С'езде Советов решение об образовании Союза Советских Социалистических Республик, как Союзная Республика, передает Союзу полномочия, определенные ст. 1-й Конституции Союза Советских Социалистических Республик. За Белорусской Социалистической Советской Республикой,

согласно ст. 4-й Конституции Союза Советских Социалистических Республик, сохраняется право свободного выхода из Союза.

**Ст. 5.** В пределах, указанных в Основном Законе (Конституции) Союза Советских Социалистических Республик, и по предметам, отнесенным к компетенции Союза, на территории Белорусской Социалистической Советской Республики имеют обязательную силу постановления верховных органов Союза ССР. За этим исключением никакие органы, кроме Всебелорусского С'езда Советов, Центрального Исполнительного Комитета Белорусской Социалистической Советской Республики, его Президиума и Совета Народных Комиссаров, не имеют права издавать законодательные акты обще-государственного значения на территории Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 6.** Вся земля, леса, недра, воды, а равно фабрики и заводы, железнодорожный, водный и воздушный транспорт и средства связи составляют собственность социалистического государства, пользование которыми определяется особыми законами Союза Советских Социалистических Республик и Белорусской Социалистической Советской Республики в пределах их компетенции, установленной Конституциями Союза Советских Социалистических Республик и Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 7.** Белорусская Социалистическая Советская Республика признает труд обязанностью всех граждан, считая охрану труда своей особо-важной задачей.

**Ст. 8.** В целях обеспечения за трудящимися действительной свободы союзов, Белорусская Социалистическая Советская Республика, сломив экономическую и политическую власть имущих классов и устранив этим все препятствия, которые мешают в буржуазном обществе рабочим и крестьянам пользоваться свободой организаций и действия, оказывает рабочим и крестьянам содействие для их об'единения и организации.

**Ст. 9.** В целях обеспечения за трудящимися действительной свободы собраний, Белорусская Социалистическая Советская Республика, признавая право граждан Советской Республики свободно устраивать собрания, митинги, шествия и т. п., предоставляет в распоряжение рабочего класса и крестьянства все пригодные для устройства народных собраний помещения.

**Ст. 10.** В целях обеспечения за трудящимися действительной свободы выражения своих мнений, Белорусская Социалистическая Советская Республика, уничтожив зависимость печати от капитала, предоставляет в руки рабочего класса и крестьянства все технические и материальные средства к изданию газет, брошюр, книг и всяких других произведений печати и обеспечивает их свободное распространение по всей стране.

**Ст. 11.** В целях обеспечения за трудящимися действительного доступа к знанию, Белорусская Социалистическая Советская Республика

ставит своей задачей предоставить им полное, всестороннее и бесплатное образование.

**Ст. 12.** В целях обеспечения за трудящимися действительной свободы совести, церковь отделяется от государства и школа от церкви, а свобода религиозной и антирелигиозной пропаганды признается за всеми гражданами.

**Ст. 13.** В целях охраны завоеваний Великой Октябрьской Революции, Белорусская Социалистическая Советская Республика признает обязанностью всех граждан Республики защиту социалистического отечества и устанавливает всеобщую воинскую повинность.

Почетное право защищать революцию с оружием в руках предоставляется только трудящимся; на нетрудовые элементы возлагается выполнение иных воинских обязанностей.

**Ст. 14.** Белорусская Социалистическая Советская Республика исходит из равенства прав граждан, независимо от их расовой и национальной принадлежности.

**Ст. 15.** В соответствии со ст. 7 Конституции СССР граждане Белорусской Социалистической Советской Республики являются гражданами Союза Советских Социалистических Республик.

**Ст. 16.** Белорусская Социалистическая Советская Республика предоставляет все права, устанавливаемые Конституцией и законодательством Республики для граждан Белорусской Социалистической Советской Республики, также и всем пребывающим на территории Белорусской Социалистической Советской Республики гражданами других советских союзных республик.

**Ст. 17.** Белорусская Социалистическая Советская Республика, исходя из солидарности трудящихся всех наций, предоставляет все политические права иностранцам, проживающим на территории Белорусской Социалистической Советской Республики для трудовых занятий и принадлежащих к рабочему классу, а равно к непользующемуся чужим трудом крестьянству, на основе постановлений верховных органов Союза Советских Социалистических Республик.

**Ст. 18.** Белорусская Социалистическая Советская Республика предоставляет право убежища всем иностранцам, подвергающимся преследованиям за политическую деятельность или за религиозные убеждения.

**Ст. 19.** Руководясь интересом трудящихся, Белорусская Социалистическая Советская Республика лишает отдельных лиц и отдельные группы лиц прав, которыми они пользуются в ущерб интересам социалистической революции.

**Ст. 20.** Белорусская Социалистическая Советская Республика на основе полного уничтожения национального гнета обеспечивает свободное экономическое и культурное развитие и под'ем благосостояния трудящихся всех национальностей ее населяющих, и организует ши-

рокое участие их в социалистическом строительстве через советы рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов.

Для более полного и широкого вовлечения трудящихся национальных меньшинств Белорусской Социалистической Советской Республики в работу экономического и социалистического строительства в местностях, где трудящиеся той или иной национальности составляют большинство населения, организуются Советы, работающие на языке данной национальности, и наиболее полно учитывающие в своей работе национальные особенности.

**Ст. 21.** За всеми гражданами Белорусской Социалистической Советской Республики признается право свободного пользования родным языком на с'ездах, в суде, управлении и общественной жизни.

Национальным меньшинствам обеспечивается право и реальная возможность обучения в школе на родном языке.

В государственных и общественных учреждениях и организациях Белорусской Социалистической Советской Республики устанавливается полное равноправие белорусского, еврейского, русского и польского языков.

**Ст. 22.** В виду значительного преобладания в Белорусской Социалистической Советской Республике населения белорусской национальности, белорусский язык избирается, как язык преимущественный для сношения между государственными, профессиональными и общественными учреждениями и организациями.

**Ст. 23.** Опубликование важнейших законодательных актов производится на белорусском, еврейском, русском и польском языках.

## Глава II.

## О предметах ведения Всебелорусского С'езда Советов и Центрального Исполнительного Комитета Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 24.** Исключительному ведению Всебелорусского С'езда Советов подлежит:

а) установление, дополнение и изменение основных начал Конституции (Основного Закона) Белорусской Социалистической Советской Республики и окончательное утверждение частичных изменений в Конституции Белорусской Социалистической Советской Республики, принятых Центральным Исполнительным Комитетом Белорусской Социалистической Советской Республики в период между Всебелорусскими С'ездами Советов;

б) разрешение в соответствии с Конституцией Союза Советских Социалистических Республик вопросов об изменении границ Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 25.** Ведению Всебелорусского С'езда Советов и Центрального Исполнительного Комитета Советов Белорусской Социалистической

Советской Республики подлежат все вопросы обще-государственного значения, как-то:

а) общее руководство всей политикой и народным хозяйством Белорусской Социалистической Советской Республики;

б) административное деление территории Белорусской Социалистической Советской Республики;

в) установление в соответствии с законодательством Союза Советских Социалистических Республик плана всего народного хозяйства и отдельных отраслей его на территории Белорусской Социалистической Советской Республики;

г) установление в соответствии с Конституцией и законодательством Союза Советских Социалистических Республик государственных и местных налогов, сборов и неналоговых доходов, а также заключение внешних и внутренних займов Белорусской Социалистической Советской Республики;

д) утверждение кодексов законов Белорусской Социалистической Советской Республики в соответствии с Конституцией СССР;

е) право амнистий общей и частной, а также право реабилитации на территории Белорусской Социалистической Советской Республики лиц, осужденных судебными и административными органами Белорусской Социалистической Советской Республики;

ж) отмена постановлений окружных с'ездов советов, нарушающих настоящую Конституцию или постановления верховных органов Белорусской Социалистической Советской Республики;

з) разрешение всех вопросов, не отнесенных по Конституции Союза Советских Социалистических Республик к компетенции Союза, которые Всебелорусский С'езд Советов или Центральный Исполнительный Комитет Белорусской Социалистической Советской Республики признает подлежащим своему разрешению.

## Глава III.

## О Всебелорусском С'езде Советов.

**Ст. 26.** Всебелорусский С'езд Советов составляется из представителей городских советов по расчету один депутат на две тысячи избирателей и окружных с'ездов советов, по расчету один депутат на десять тысяч жителей.

В случае, если окружной с'езд советов не предшествует Всебелорусскому С'езду Советов, депутаты избираются непосредственно районными с'ездами советов.

**Ст. 27.** Всебелорусский С'езд Советов избирает Центральный Исполнительный Комитет Советов Белорусской Социалистической Советской Республики в количестве членов, определяемом С'ездом Советов.

**Ст. 28.** Всебелорусский С'езд Советов созывается Центральным Исполнительным Комитетом Белорусской Социалистической Советской Республики не реже одного раза в два года.

**Ст. 29.** Чрезвычайный Всебелорусский С'езд Советов созывается Центральным Исполнительным Комитетом Белорусской Социалистической Советской Республики как по собственному почину, так и по требованию советов или с'ездов советов местностей, насчитывающих не менее одной трети всего населения Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 30.** Всебелорусский С'езд Советов избирает представителей в Совет Национальностей Центрального Исполнительного Комитета Союза Советских Социалистических Республик.

## Глава IV.

## О Центральном Исполнительном Комитете Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 31.** Центральный Исполнительный Комитет Белорусской Социалистической Советской Республики является верховным органом власти в период между Всебелорусскими С'ездами Советов.

**Ст. 32.** Центральный Исполнительный Комитет Белорусской Социалистической Советской Республики издает кодексы, декреты и постановления по своей инициативе, а также рассматривает и утверждает законопроекты, внесенные Советом Народных Комиссаров БССР.

**Ст. 33.** Все декреты и постановления, определяющие общие нормы политической и экономической жизни Белорусской Социалистической Советской Республики, а также вносящие коренные изменения в существующую практику государственных органов в Белорусской Социалистической Советской Республике, а равно бюджет Белорусской Социалистической Советской Республики, как часть единого государственного бюджета СССР, подлежат рассмотрению и утверждению Центрального Исполнительного Комитета Белорусской Социалистической Советской Республики.

**Ст. 34.** В период между сессиями Центрального Исполнительного Комитета Белорусской Социалистической Советской Республики высшим законодательным, распорядительным и контролирующим органом власти Белорусской Социалистической Советской Республики является избираемый Центральным Исполнительным Комитетом Белорусской Социалистической Советской Республики Президиум Центрального Исполнительного Комитета.

**Ст. 35.** Центральный Исполнительный Комитет Белорусской Социалистической Советской Республики дает общее направление деятельности Рабоче-Крестьянского Правительства и всех органов советской власти Белорусской Социалистической Советской Республики, об'единяет работу по законодательству и управлению, определяет круг де-

